## Міхаіл Чыгір:
# «МОЙ ІДЭАЛ...»

*Працяг з старонкі 1.*

«НН»: Сёньня ў Беларусі ня толькі мова, але й помнікі архітэктуры і культуры знаходзяцца ў катастрафічным стане. Патрэбнае апэратыўнае ўмяшаньне, каб захаваць для нашчадкаў хоць нешта...

М.Чыгір: Нашыя помнікі... Шмат было зьнішчана ў войнах і ў паваенны савецкі пэрыяд. Нейкім наскокам гэткія рэчы ня вырашаюцца. Паглядзіце, колькі спатрэбілася часу, каб прывесьці ў больш-менш належны стан замкі ў Міры і Нясьвіжы, якія для мяне ёсьць увасабленьнем культуры Беларусі. Не ахоўваць помнікі нельга! Трэба знаходзіць сродкі абавязкова. Тут для нас павінна быць узорам Літва. Але я не хачу даваць канкрэтныя рэкамэндацыі там, дзе я не спэцыяліст. Я ведаю пэўна, што без эфэктыўнай эканомікі нам не адбудаваць гістарычных помнікаў. Таму першае, што трэба неадкладна рабіць — гэта паляпшаць стан эканомікі.

«НН»: Вы прывялі станоўчы прыклад Літвы ў справе аховы помнікаў. А досьвед якіх краінаў варта пераймаць у эканоміцы?

М.Чыгір: Нам вельмі блізкая Літва. У галіне палітыкі і эканомікі нам блізкі і прыклад Польшчы. Аднак я паўсюль кажу, што ў будучыні я асабіста хацеў бы, каб Беларусь сталася гэткай, як Фінляндыя. Хоць у іх неспрыяльны клімат, але дзяржаўны бюджэт Фінляндыі сёньня большы, чым у Расеі. Праўда, там да гэтага йшлі доўга і цяжка. Нам, бадай, бліжэйшы прыклад, дзе за вельмі кароткі тэрмін дасягнулі выдатных посьпехаў — гэта Чэхія. Ужо і там бюджэт большы, чым у Расеі! Ну, а зусім побач — тая ж Літва. Яны дасягнулі зайздросных посьпехаў, найперш у сельскай гаспадарцы. Эканоміка Літвы стабільная, ёсьць устойлівы хуткі рост. Інвэстыцыяў у Літву ўкладаецца ў дзясяткі разоў болей, чым у сёньняшнюю Беларусь. Практыка давяла, што яны абралі адзіна слушны шлях, па якім трэба будзе йсьці і нам.

«НН»: Якія былі б вашыя першачарговыя захады як прэзыдэнта?

М.Чыгір: У першую чаргу — зьняцьце эканамічнай і палітычнай блякады з боку Захаду. Затым усталяваньне самых шчыльных кантактаў з МВФ, Сусьветным Банкам, Эўрапейскім Банкам Рэканструкцыі і Разьвіцця. Патрэцяе, адбудова нацыянальнай фінансавай сыстэмы.

«НН»: У агульных рысах гэта падобна да праграмы «ценявога ўраду» БНФ...

М.Чыгір. Можа быць. Раней я іх ня надта разумеў. Я ўважліва вывучаў іх дакумэнты, аднак ня мог пагадзіцца зь некаторымі іх прапановамі, напрыклад, пабудовай другога нафтавага калектару, каб ня быць прывязанымі да аднае Расеі. Гэта, вядома, рэч нядрэнная, але размова пра мільярды даляраў. Іх няма ў Беларусі, няма й ахвочых інвэставаць у гэты праект. Ну дык пра што гутарка? Трэба ж хоць у нечым паляпшаць эканоміку сёньня ж. Была яшчэ прапанова павысіць плату за транзыт газу і нафты. Але ж тая плата, якую мы бралі і бярэм з Расеі сёньня — гэта сусьветныя кошты. Можа, недзе ёсьць трохі большыя стаўкі, але вялікага разрыву няма. І бяз БНФ тут усё ясна. Хоць былі і слушныя прапановы. Напрыклад, павысіць зборы за аўтамабільны транзыт. Я лічыў і лічу гэта разумным. Як і некаторыя іншыя іх прапановы.

«НН»: Якой бачыцца вам роля ўраду БНР у беларускай палітыцы?

М.Чыгір: Пакуль ніякай. Яны восемдзесят гадоў сядзяць за мяжою і могуць прасядзець яшчэ столькі ж. Трэба працаваць на Бацькаўшчыне. Ведаеце, грамадзянства БНР, іх пашпарты — гэта нейкі нерэальны, паралельны сьвет. Гэта гульні. Вы скажаце, што і мае самавылучэньне ў прэзыдэнты таксама? Пабачым. Я буду гуляць на сваёй тэрыторыі. І ўсё вырашыцца ў самой Беларусі. Калі самі беларусы выберуць сабе будучыню, то тут ня дасьць рады ні Расея, ні Амэрыка, ні хто іншы. А кіраўніцтва БНР можа далучацца. Я яшчэ ня чуў ад іх канкрэтных прапановаў, напрыклад, эканамічнай праграмы.

«НН»: Лідэр БНФ сьцьвярджае, што за Вамі стаяць расейскія службы, а з другога боку кажуць, што Масква Вас не падтрымлівае.

М.Чыгір: Хай гавораць, што хочуць. Нядаўна я прачытаў у адной зь беларускіх газэтаў, што я — агент ЦРУ. Што да пазыцыі Масквы, то я вам скажу — адны лідэры не падтрымліваюць, другія — гатовыя падтрымаць. У мяне насамрэч там добрыя сувязі, як, між іншым, і на Захадзе.

«НН»: Якія ў Вас замежнапалітычныя сымпатыі?

М.Чыгір: У замежнай палітыцы не патрэбныя ніякія сымпатыі ці антыпатыі. Патрэбны прагматычны падыход. Паколькі мы ня можам выбіраць сабе суседзяў, то з Расеяй давядзецца мець шчыльныя эканамічныя кантакты. Але што да блёкаў, групаў і гэтак далей, гэта нас не ўратуе. У любым выпадку мы апынемся на сумежжы, на лініі супрацьстаяньня. Для мяне ідэал — Швайцарыя, якая нават сёньня не зьбіраецца разьвітвацца з нэўтралітэтам. Трэба разьлічваць не на Расею ці Эўропу, а толькі на самых сябе.

«НН». А якая пры Вашым магчымым прэзыдэнцтве будзе дзяржаўная сымболіка?

М.Чыгір: Яна ж ня будзе «маёй». Я асабіста быў рашучым працўнікам сумнавядомага рэфэрэндуму. Цяпер жа папярэднюю Канстытуцыю аўтаматычна не вярнуць. Дарэчы, менавіта з-за не палажэньняў мы маем тое, што маем. Усё павінен вырашаць Вярхоўны Савет. Пытаньні пра сьцяг і пра герб таксама. Абавязак прэзыдэнта — выконваць закон. Калі вернецца папярэдняя сымболіка — я ня супраць. Аднак спачатку няхай сам народ абярэ сабе законны парлямэнт.

**Гутарыў Сяргей Харэўскі**

## Аляксандар Емец:
# БЕЛАРУСЫ

Сярод некалькіх дзясяткаў замежных гасьцей у Кангрэсе дэмакратычных сілаў Беларусі бралі ўдзел пяцёра прадстаўнікоў суседняй Украіны, у тым ліку й парлямэнтары Вярхоўнай Рады. Выказаўшы падтрымку беларускай дэмакратыі, украінцы, відавочна, баранілі й гонар сваёй дзяржавы. Як вядома, Кангрэс дэмсілаў амаль што цалкам супаў па часе з трохдзённым афіцыйным візытам у Менск дэлегацыі Вярхоўнай Рады на чале зь яе старшынём А.Ткачэнкам. Пад час Кангрэсу нам даў інтэрвію віцэ-старшыня фракцыі Народна-дэмакратычнай партыі (НДП) у Вярхоўнай Радзе Ўкраіны Аляксандар Емец.

НДП — адна з найбольш уплывовых палітычных партыяў Украіны. Фактычна, партыя ўлады. У НДП уваходзіць шэраг высокастаўленых асобаў, у тым ліку прэм'ер-міністар Валеры Пуставойтэнка, да яе блізкі й прэзыдэнт Кучма. На леташніх парлямэнцкіх выбарах НДП апынулася на 4-м месцы па колькасьці галасоў пасьля кампартыі, Народнага Руху і блёку сацыялістаў і сялянаў (да якога належыць Ткачэнка).

— Пане Емец, як бы вы пракамэнтавалі прыезд і выступ у Нацыянальным Сходзе старшыні Вярхоўнай Рады Аляксандра Ткачэнкі? Наколькі вялікая частка ўкраінскага парлямэнту падтрымлівае погляды свайго сьпікера ў дачыненьні да Беларусі й гатовая прызнаваць нелегітымны нацыянальны сход?

—Вы ведаеце, усё гэта досыць супярэчліва. У Ткачэнкі гэткія ж супярэчлівыя погляды, як і ў вашага прэзыдэнта. Нават цяжка ацаніць гэтыя погляды ідэалягічна. Будучы чалавекам, які шмат займаўся бізнэсам, ён разам з тым можа падтрымліваць камуністычныя альбо блізкія да камуністычных ідэі. Таму цяжка зразумець яго пазыцыю. Як бачна зь ягоных паводзінаў як сьпікера, ён у згодзе то з камуністамі, то з намі...

# КАСАВАРЫ ГАТОВЫЯ ДА ЗДАБЫЦЬЦЯ

Балканская паўвыспа — край, дзе Захад сутыкаецца з Усходам і дзе вострыя цені мінарэтаў засьцяць крыжы хрысьціянскіх бажніцаў. Там, на Балканах, здавенчасу сышліся бітыя шляхі з Эўропы ў Азію, геапалітычныя інтарэсы вялікіх дзяржаваў, сплялíся ў адзін клубок міжканфэсійныя і міждзяржаўныя спрэчкі, старыя крыўды. На Балканах няма міру, і канфлікт у Косаве ёсьць толькі чарговым зьвяном бясконцага ланцуга ўзрушэньняў апошняга стагодзьдзя.

Расейскія, а сьледам за імі і беларускія афіцыйныя СМІ, апавядаючы пра Косава, не стамляюцца сьцьвярджаць: альбанцы зьявіліся тут толькі пасьля другой сусьветнай вайны. Маршал Ціта нібыта спрыяў ад'езду праваслаўных сэрбаў і засяленьню прыбеглымі з Альбаніі мусульманамі.

Працяглы час пра Альбанію і яе насельнікаў мала што было вядома. Краіна горных арлоў была ізаляваная ад вонкавага сьвету, і таму яе называлі ня йначай «чорнай дзіркай» у цэнтры Эўропы. Між тым шчыптары (так сябе называюць альбанцы) — адзін з самых старажытных эўрапейскіх народаў. Яны вядуць свой радавод ад ілірыйскіх плямёнаў і зьяўляюцца аўтахтонным насельніцтвам Альбаніі й заходняй часткі Косава. Паводле гісторыкаў, ілірыйцы (плямёны хаўрус дарданаў) апанавалі тэрыторыю Косава дзесьці на мяжы XIX--XVIII ст. да н.э., тым часам як сэрбы прыйшлі ў тыя мясьціны не раней за VII ст. пасьля Хрыста.

У мінулым продкі сучасных альбанцаў і сэрбаў жылі разам, а калі весьці гаворку аб іхнай канфэсійнай прыналежнасьці, дык у раньнім сярэднявеччы і першыя, і другія былі хрысьціянамі. Так што косаўскія храмы XII ст. зусім ня сьведчаць аб прававетна-сэрбскім характары Косаўскага краю.

На пачатку XV ст. тэрыторыя Косава падпала пад уладу туркаў, але й пасьля гэтага касавары — косаўскія альбанцы — доўгі час заставаліся хрысьціянамі. Масавае навярненьне ў іслам распачалося толькі ў XVII ст.

Югаслаўскія гісторыкі ў сваіх працах ствараюць яшчэ адзін міт — пра хаўрус турэцкіх заваёўнікаў і альбанцаў. Насамрэч шчыптары неаднаразова ўздымаліся супраць асманскага валадарства, і цэнтар гэтай барацьбы, прынамсі ў другой палове XIX ст., знаходзіўся ў Косаве. Менавіта тут у 1878 годзе была ўтвораная так званая Прызрэнская ліга, якая пастанíла за мэту вызваленьне Альбаніі з-пад асманскага ярма і якая была разгромленая туркамі.

Толькі ў 1912 годзе Альбанія здабыла незалежнасьць, але межы новай дзяржавы з ласкі Лёнданскай канфэрэнцыі паслоў правялі без уліку этнаграфіі, і вызваленая ад туркаў тэрыторыя Косава была далучаная да Сэрбіі. Сталася так таму, што за сьпінаю сэрбаў стаяла царская Расея.

У складзе каралеўскай, а затым Цітавай Югаславіі касавары напоўніцу зьведалі, што такое сэрбскі шавінізм. А непасрэдна далучэньне Косаўскага краю да Сэрбіі прайшло пад знакам гвалтоўнай дэпартацыі з родных мясьцінаў у Турцыю блізу 400 тысяч мусульманаў. І хаця дэпартаваных і называлі «туркамі», гэта былі збольшага косаўскія альбанцы. У наступныя гады сэрбскі, а затым югаслаўскі ўрад былі апанаваныя ідэяй высяленьня ў Турцыю рэшты касавараў, а вядомы югаслаўскі гісторык Васа Чубрылавіч нават напісаў на гэты конт адпаведны мэмарандум, у якім «тэарэтычна» абгрунтаваў ідэю масавых дэпартацый.



*Сеча альбанцаў з туркамі, XVI стагодзьдзе.*

Этнічныя чысткі ды гвалтоўная славянізацыя краю далі плён: увесну 1941 году касавары, хаця й без асаблівай радасьці, але даволі прыязна сустрэлі новых акупантаў — італьянскіх фашыстаў. Ну, а калі Мусаліні, гуляючы на нацыянальных пачуцьцях шчыптараў, далучыў значную частку Косава і Заходнюю Македонію да акупаванай італьянцамі Альбаніі, маладыя касавары гамузам сталі ў шыхты арганізаваных фашыстамі нацыянальных вайсковых фармаваньняў. Але значная частка альбанцаў выступіла супраць акупантаў, і ўжо ў 1941 годзе ў гарах былі створаныя партызанскія атрады. Змагаліся партызаны зь цьвердай пэўнасьцю, што пасьля перамогі альбанцы Косава і Альбаніі будуць жыць у адной дзяржаве. Пра гэта сьведчыць канфэрэнцыя антыфашыстоўскіх сіл Косаўскага краю, якая сабралася ў апошні дзень 1943 году і прыняла рэзалюцыю аб далучэньні Косава да Альбаніі.

Адразу ж па вайне цітаўцы жорстка распраўляліся ня толькі з калябарантамі, але і з тымі альбанцамі-антыфашыстамі, якія выступалі за стварэньне Вялікай Альбаніі. Аж да пачатку пяцідзясятых гадоў баракі Голага Востраву — канцлягеру, у якім Ціта гнаіў ворагаў «народнай улады» — папаўняліся альбанцамі.

Камуністычны дыктатар кінуў касаварам недагры-

## Ігар Кузьняцоў:

# 600 000 ахвяраў – прыблізная лічба

*Працяг з старонкі 1.*

На адкрыцьці прысутнічаў беларускі гісторык Ігар Кузьняцоў. Ён адказаў на некалькі нашых пытаньняў.

– На які час прыпадае пік рэпрэсіяў у Заходняй Беларусі? Да пачатку вайны ці пасьля яе?

– Самая масавая хваля рэпрэсіяў – з канца верасьня 1939-га да чэрвеня 1941 г. Цягнікі з дэпартаванымі з Заходняй Беларусі адыходзілі на Архангельск, у Сібір, Казахстан. Другая хваля – 1944 год, вызваленьне Беларусі. У той час органы СМЕРШ, НКВД дабівалі тых, каго не дала арыштаваць вайна.

Напачатку вывезьлі толькі асаднікаў, лясьнічых, пасьля ўжо арыштоўвалі ўсіх. Падставаю для высылкі магло быць нават тое, што ты «жыў на тэрыторыі буржуазнай Польшчы».

Тых, хто выказваў незадавальненьне, нейкае спачуваньне дэпартаваным, таксама арыштоўвалі. Але такіх было няшмат. Усе ўжо ўяўлялі, з кім маюць справу. Таму непасрэдных заклікаў супраць савецкай улады не праяўлялася. Справы фабрыкаваліся органамі НКВД на падставе даносаў і сыстэмы сакрэтных інфарматараў, якая ўсталявалася пасьля прыходу савецкіх войскаў. Было 4 хвалі даваеннай дэпартацыі:

– верасень 1939-га – лістапад 1939-га (самая масавая),
– пачатак 1940-га,
– канец 1940-га,
– вясна 1941-га.

Існуюць розныя ацэнкі лічбы дэпартаваных. Нябожчык прафэсар Хацкевіч сьцьвярджаў, што ня больш за 200 тысяч чалавек. Іншыя дасьледчыкі лічаць – значна больш. Я, напрыклад, раблю высновы з дапамогай такога аналізу – толькі на тэрыторыі сучаснай Томскай вобласьці Расеі ў пэрыяд з 1939-га па 1941 г. апынулася каля 25 000 нашых землякоў.



Але высылалі таксама ў Кемераўскую, Новасібірскую, Архангельскую вобласьці, Казахстан, на Далёкі Ўсход, Калыму. Выходзіць, ня менш за 300 000 «заходнікаў».

Зараз спрабуюць маніпуляваць лічбамі: бяруць афіцыйную справаздачнасьць, колькі было выслана па Баранавіцкай вобласьці, Вялейскай і г.д. Атрымоўваецца агулам 60–80 тысячаў. Але патрэбна ўлічваць, што адных высылалі сьпісамі, іншых па лініі органаў НКВД без афармленьня дакумэнтаў. Таму ў гэтую афіцыйную статыстыку ня ўсе патрапілі. Далей. У 1941 годзе пачалася вайна. У Беларусі прасоўваньне немцаў было настолькі імклівым, што архівы НКВД не пасьпявалі вывозіць і зьнішчалі. Былі таксама пастановы мясцовых саветаў, якія прымалі рашэньні на сходах. Пастанавілі: гэткія сем'і выслаць – і высылалі. У гэтым цяжкасьць дасьледаваньня праблемы. Але можна пэўна сьцьвярджаць, што хваля дэпартацыі вырвала сотні тысячаў чалавек.

Размова ідзе пра масавае высяленьне. Гэта не адзінкавыя факты, што во некта памыліўся, і чалавека выслалі. Знаходзяцца аднак артадоксы, якія сьцьвярджаюць, што рэпрэсіяў наагул не было, а рэабілітацыя незаконная. Мы прыйшлі з вызваленчай місіяй, кажуць яны, вызвалілі «заходнікаў» ад палякаў. Вызваліць-то вызвалілі. Але ў якім страху людзі сталі жыць пасьля гэтага вызваленьня!

– Ці ёсьць нейкія зьвесткі пра колькасьць беларусаў, якія служылі ў польскім войску ў 1939 годзе і трапілі ў савецкі палон? Колькі зь іх не вярнулася дахаты?

– Некаторых, хто служыў у польскім войску ці ў ваенізаваных структурах і быў інтэрнаваны, першапачаткова адразу адпускалі. Толькі недзе ў лістападзе 1939-га Берыя даў загад, каб вызвалялі толькі тых, каму больш за 55 гадоў, ці тых, хто ня мае дачыненьня да войска. Яшчэ праз пэўны час выйшаў жудасны загад наагул нікога не вызваляць з 24 000 афіцэраў. Але афіцэры – паняцьце адноснае. Былыя інжынэры, настаўнікі-запасьнікі, якія надзелі афіцэрскую форму на пачатку вайны – таксама афіцэры. У чым была іх віна?

З гэтых 24 000 на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў палон было захоплена 65–70% – каля 15 тысячаў. Сярод іх этнічных беларусаў – да 30–40%.

– Пасьля вайны рэпрэсіі супраць падпольных антыбальшавіцкіх арганізацыяў, нацыянальнай партызанкі мелі масавы характар?

– Антысавецкі супраціў пасьля вайны меў хутчэй ачаговы характар. Не было такога паўстанцкага руху, як у 1920-м на Случчыне. Дзейнасьць МГБ была скіравана на лякалізацыю гэтых ачагоў. Антысавецкія атрады былі нешматлікімі й па складзе: дзясятак, максымум сотня чалавек.

У пасьляваенны пэрыяд рэпрэсіі праводзіліся больш асьцярожна й былі не такімі масавымі, як даваенныя. Ужо ня тыя ўмовы былі, ужо вайна прайшла... У людзей заставалася зброя, і ўлады баяліся справакаваць яшчэ больш моцны супраціў. Рэпрэсіі былі скіраваныя збольшага супраць моладзі, тады як перад вайной – супраць сярэдняга й старэйшага пакаленьня. Пасьля вайны ў моладзі абуджалася імкненьне й жаданьне супрацьдзейнічаць уладзе, сыстэме, якая не адпавядала іх памкненьням. Вось чаму вынiклі незалежніцкія арганізацыі моладзі. Моладзь не адчувала страху, які быў у старэйшых. Моладзь лічыла, што змагаецца за слушную справу й нават не ўсьведамляла, што ёй пагражае, грэбавала канспірацыяй, таму большасьць суполак улады выявілі й разграмілі.

Часта самі бацькі стараліся не пускаць сваіх сыноў і дачок удзельнічаць у якой-кольвек барацьбе. Як толькі яны пра гэта даведваліся, дык адразу прымалі нейкія захады, каб ізаляваць, ня даць удзельнічаць, каб дзеці ня трапілі нават пад падазрэньне МГБ. Маштабнага супраціву таму й не было, што людзі былі ўжо навучаныя горкім досьведам і стараліся зьберагчы сваіх дзяцей.

– Ці праўда, што баранавіцкая турма «Крывое кола» была адной з самых жудасных у Беларусі?

– Ня ведаю, ці можна так казаць – гэткіх турмаў было шмат. З адных крыніц – слуцкая турма была самага жорсткага абыходжаньня; іншыя кажуць – менская ўнутраная турма НКВД. У Баранавічах, асабліва ў пасьляваенны пэрыяд, знаходзілася вялікая групоўка войскаў НКВД, якія цяпер называюцца ўнутранымі войскамі. Прысутнасьць вялікай колькасьці войскаў, а таксама ўправы НКВД заўсёды заахвочвала да жорсткасьці. Сыстэма была пабудаваная, каб ламаць людзей, прыніжаць іх, прымушаць здацца.

– Ці зьвязаная прысутнасьць у Баранавічах вялікай групоўкі войскаў НКВД з тым, што ў горадзе пад час нямецкай акупацыі актыўна дзейнічалі нацыянальныя ўстановы і жыло шмат нацыянальна сьведамых людзей?

– Найперш, вядома, таму, што Баранавічы былі чыгуначным вузлом, цэнтрам транспартных камунікацыяў. Але тутака таксама быў вышэйшы адсотак інтэлігенцыі, зьвесткі сюды даходзілі хутчэй, як з Польшчы, так і зь Менску, тутака была тая рошчына, якая патрабавала пільнай увагі з боку органаў. Супраціў у Баранавічах быў больш бачным, чым дзейнасьць аналягічных групаў у Менску. На фоне вялікага гораду гэта ня так заўважна.

– Колькі ўсяго ў Беларусі рэпрэсавана людзей і колькі ахвяраў камуністычнага рэжыму яшчэ жывыя?

– Паводле зьвестак Беларускай асацыяцыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў усяго жыве яшчэ каля 15 тысячаў чалавек. Паводле афіцыйнай статыстыкі, рэпрэсавана каля 600 тысяч, але гэтая лічба прыблізная, паводле зьвестак 1993 году. Прайшло пяць гадоў, і на аснове апошняй інфармацыі гэтая лічба павялічваецца да 700 тысячаў. А калі падлічыць сасланых пад час калектывізацыі ў Расею й пасьля ўжо там рэпрэсаваных, дык лічба павялічыцца пагатоў.

600 тысячаў – гэта лічба інфармацыйна-выліковага цэнтру МУС. Але як быць з тымі, хто ня трапіў ні ў якія сьпісы? Колькі было зьнішчана дакумэнтаў у 1941 годзе?! Прадстаўнікі органаў любяць сьцьвярджаць: «У нас не адна справа ня зьнікла!» Я разумею, калі гэта сьцьвярджаюць недзе ў Сібіры, куды не дайшла вайна. Апроч таго, вядома, што існавалі сакрэтныя загады на зьнішчэньне асобных справаў, якія маглі скампрамэтаваць кіраўніцтва (напрыклад, у 1953 годзе).

Рэабілітавана ж ня больш за 60–65% ад афіцыйнай лічбы рэпрэсаваных па палітычных матывах.

**Гутарыў Руслан Равяка, Баранавічы**

# НАШЫ ЎЗНАГАРОДЫ

***Карпіевіч Дз. Сыстэма ўзнагарод Рэчы Паспалітай. – Менск, 1998. – 69 с. – Наклад 100 ас. ISBN 985-435-088-6***




Брашуру маладога гісторыка Дзьмітрыя Карпіевіча варта вылучыць з шэрагу іншых перш за ўсё гаспадарскім падыходам да гістарычнай спадчыны часоў Рэчы Паспалітай, а менавіта да ордэнаў. Раней як было? Беларусы ўважалі за свой ордэн «Віртуці мілітары» (бо на ім «Пагоня»), а ўсе астатнія аддавалі ў гістарычную скарбонку палякаў. Цяпер не аддамо. Дарма што першы рэальны ордэн Рэчы Паспалітай зваўся ордэнам Белага Арла (дзяржаўны герб Польшчы), а другі – ордэнам Сьв. Станіслава (каталіцкі апякун Польшчы). Вядома, нам было б прыемней, каб поруч зь імі існавалі ордэны «Пагоні» і Сьв. Казіміра (каталіцкага апекуна Літвы). Але не атрымалася, хоць у 1770-х існаваў праект стварэньня ордэна Казіміра Паляка, патрона Польшчы (пэўна, меўся на ўвазе Сьв. Казімір), якому адводзілася самая ніжняя прыступка ў іерархіі ордэнаў. На ордэн Белага Арла маглі б прэтэндаваць і расейцы, бо, згодна з традыцыяй, на найвышэйшы расейскі ордэн Андрэя Найпершпаклікананага мог прэтэндаваць толькі кавалер ордэну Белага Арла. Цяпер словы прагучалі – «гэта і нашае, беларускае».

У дэталях сыстэму ўзнагародаў ужо вывучалі палякі, і плён ад іх працы вялікі. Аўтар брашуры згадвае пад сотню крыніцаў, большасьць зь якіх польскія. Што можа дадаць да іх беларускі навуковец? Колькі сярод кавалераў ордэнаў было мясцовых ураджэнцаў, як яны ставіліся да ўзнагародаў, якое месца займалі ордэны ў іх сыстэме вартасьцяў. Другі накірунак вывучэньня ўзнагародаў – пошук адпаведнай беларускай тэрміналёгіі. Як праца Дз. Карпіевіча адна зь першых, то ў аўтара ўзьніклі цяжкасьці нават зь перакладам назваў ордэнаў і мэдалёў. У першай палове XVII ст. быў праект стварэньня ордэну Бязгрэшнага Зачацьця Дзевы Марыі. Каталік сказаў бы хутчэй – «ордэн Беззаганнага Пачацьця Панны Марыі». Яшчэ цяжэй даецца пераклад назваў мэдалёў з лаціны. На розных старонках кнігі сустракаем варыянты «Узнагароджваючы заахвочвае» і «Узнагароджвая заахвочвае» (мэдаль «Praemiando incitat»). Пэўна, міжвольны русізм, якіх у брашуры вельмі многа (звыклая ў апошні час эканомія на рэдактары). Вось ужо на адной старонцы сустракаем два варыянты перакладу назвы мэдаля «Equiti dextero» – «Дасканаламу ездаку» і «Дасканальнаму ездаку» (таму, хто езьдзіць да скону?). «Diligentiae» – гэта, канешне, «Рупліваму», «Merentibus» – «Заслужаным», «Bene merentibus» – «Добра заслужаным», «Solerti» – «Умеламу», але «Virtiti civili» – гэта не «За грамадзянскія заслугі», а «За цывільныя заслугі», «Virtuti militari» – як як усе ведаюць, «За ваенныя заслугі». Ёсьць і літаральныя пераклады назваў апошніх узнагародаў – «Цывільнай годнасьці» і «Вайсковай мужнасьці» (іскуюць варыянты). Трэба больш увагі надаваць прозьвішчам, каб замест вядомага падарожніка па Азіі Карстэна Нібура ня выскачыў «дацкі паручнік Небурх». Моўная памылка ёсьць нават у анатацыі да выданьня («дасьледваньне» замест «дасьледаваньне»).

Увогуле, брашура пакідае ўражаньне, што напісаная яна аўтарам перш за ўсё для сябе, каб уразумець назапашаны матэрыял. Таму трэба чакаць новых выданьняў на гэтую тэму, дзе, будзем спадзявацца, аўтар разьбярэцца з лацінай, падасьць усе мэдалі Рэчы Паспалітай (бо пакуль прыведзена толькі іх частка) і, нарэшце, асьветліць сыстэму ўзнагародаў Рэчы Паспалітай цалкам, бо мэталічныя знакі – гэта далёка ня ўсе ўзнагароды (былі яшчэ каштоўныя падарункі, званьні, землі, нарэшце, грошы).

**Валеры Пазьнякоў**

*Працяг з старонкі 1.*

**Чарнобыльская бяда, якая закранула ўсю нацыю, урэшце засталася прадметам клопату некалькіх энтузіястаў, таго ж айца Надсана, які не аднойчы прывозіў зь Лёндану ў пацярпелыя раёны лекі. Штосьці аб'яднаўчае было ў тых, першых Чарнобыльскіх шляхах, а пасьля... Усё ж тонкая гэта матэрыя – аб'яднаньне. Калі яго ня песьціць, не гадаваць з малога, не даглядаць, дык яно можа й не разьвіцца. Тое чарнобыльскае яднаньне было вельмі разумовым. Гэта не пажар і не вайна, калі ўсе разам несьвядома ўцякаюць ад небясьпекі. Чарнобыльскую бяду нельга было пабачыць візуальна. Патрабавалася думка, якая б злучала ў адзін ланцужок выбух на АЭС і павелічэньне статыстыкі хваробаў. Думка патрабуецца і сёньня, каб гнеў за дэфіцыт тавараў абрушваць не на прадаўшчыцу ў краме, а на заганную эканамічную палітыку і яе першых праваднікоў. Такая думка сапраўды аб'ядноўвае нацыю. Але ж думка – эфэмэрная па сутнасьці сваёй. Як любілі казаць кіроўцы «Совтрансавто» на беларускіх дарогах, «спасіба ў стакан не нальеш».**

**Удзельнікі сёньняшняга нашаніўскага абмеркаваньня раскрылі цэлае поле магчымых аб'ядпаўчых матываў: ад вайны і эканамічнай бяды – да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў. Не магу не пагадзіцца зь імі, але сам для сябе шукаю чагосьці не агульнага, а канкрэтнага, намацвальнага, блізкага і адначасова пазытыўнага, таго, што мусіла б культываваць беларуская інтэлігенцыя і адначасова таго, што жыве ў народзе само сабою, не названае ў якасьці аб'яднаўчага матыву.**

**Нядаўна прыяцель падзяліўся сваім наіўным зьдзіўленьнем. Сядзім, кажа зь сябрам-бізнэсоўцам у ягоным офісе, раптам сябра зірнуў на гадзіньнік, спахапіўся і кажа, пара. Куды – пытаецца мой прыяцель. На вёску, бульбу капаць, – адказвае бізнэсмэн. Якая вёска, якая бульба, у цябе заробак як бюджэт калгаса, купі сабе машыну бульбы й ня кратайся. Бізнэсмэн задумаўся на імгненьне, пасьля наглядзеў на прыяцеля й сказаў: нічога ты не разумееш.**

**Асабіста я перакананы, што беларусаў найлепей яднае вёска. Ня тыя вычварныя соткі, на якія цэлым нашэсьцем едуць у электрычках сотні тысяч гараджанаў – вынішчальнікаў прыроды, а традыцыйная вёска, зь якой так ці інакш пралягаюць карані кожнага з нас. Адмовіўшыся ад усяго вясковага дзеля таго, каб хутчэй стаць гараджанамі, беларусы амаль страцілі свой самы галоўны аб'яднаўчы матыў. Менавіта здрада вёсцы наймацней разьяднала беларусаў як нацыю. Пра гэта яшчэ раз нагадаў нядаўні выпадак у Маладэчне, горадзе ўчорашніх вяскоўцаў, дзе памерлая бабулька праляжала ў кватэры паўтара гады і ператварылася ў мумію...**

**Паказальна, што беларусы так і не стварылі сваю гарадзкую культуру.**

**І тут я зьвяртаюся да прыкладу іншых нацыяў. Скажам, да літоўцаў, у якіх гарадзкая культура – гэта прывезеная ў працэсе урбанізацыі культура вясковая. У клапатлівае нацыі гэтая культура выдатна спалучылася і з дыпляматычным пратаколам і з камптутарнымі навацыямі, а ўрэшце аб'ядноўвае ўсіх – ад малога да вялікага – перад абліччам небясьпекі.**

**Літоўцы – таксама, як і мы, напачатку стагодзьдзя былі цалкам вясковай нацыяй. Таму іхны прыклад абнадзейвае. Аб'яднацца для нас – значыць, павярнуцца да вёскі і палюбіць яе так, як любілі нашыя продкі.**

**Сяргей Паўлоўскі**

# ШТО АБ'ЯДНАЕ

*Адам Мальдзіс, культуроляг:*

На маю думку, беларусаў як нацыю могуць аб'яднаць агульначалавечыя й агульнанацыянальныя каштоўнасьці, якія знаходзяцца па-за партыйнымі і, можа быць, нават, па-за дзяржаўнымі межамі, але якія могуць успрымацца кожным, хто жыве на беларускай зямлі. Найперш гэта беларуская зямля. Мой сябра Ўладзімер Караткевіч калісьці казаў, што гэтая зямля нам Богам дадзеная, мы яе павінны берагчы ад усялякіх катаклізмаў накшталт чарнобыльскага. Значыць, кожны беларус, які жыве на гэтай зямлі, павінен дбаць пра яе. Другая каштоўнасьць, якая павінна аб'яднаць усіх беларусаў — гэта праца. Беларус ня мае права быць дрэнным гаспадаром на сваёй зямлі. Калі ён дрэнны гаспадар, значыць, ён не беларус, не грамадзянін Рэспублікі Беларусі. Ён перакаці-поле, чалавек, якіх мы добра ведаем і якія нікому й нідзе не прыносяць шчасьця. Трэцяе, вакол чаго мы можам аб'яднацца, — гэта наша спадчына: культурная, гістарычная, моўная. Тым жа Богам нам дадзена беларуская мова, і мы яе павінны шанаваць, зьберагаць і перадаць наступным пакаленьням. Гэта аксыёма, якая не падлягае сумненьню і вакол якой, мне здаецца, павінны аб'яднацца ўсе. Ну, і наступныя каштоўнасьці — хрысьціянскія. Не каталіцкія, не праваслаўныя, не ўніяцкія, не пратэстанцкія, а хрысьціянскія каштоўнасьці, бо мы ўсе хрысьціяне. Той раскол, які ў свой час быў зроблены ня з нашай волі, існус дагэтуль. Мы ў паўсядзённым побыце дзелім людзей на ўсходнікаў і заходнікаў, на каталікоў і праваслаўных. У той час як мы павінны памятаць, што мы найперш хрысьціяне, а потым грамадзяне сваёй краіны. І апошняя каштоўнасьць — гэта сям'я. Я проста ў жаху ад таго, што ў нас творыцца цяпер. Дзікунства даходзіць да тых межаў, якія раней ніколі не пераступаліся. Кожны дзень я чытаю

# БОЯЗЬ НЕЗВАРОТНАГА ВЫБАРУ

Беларусаў лучаць уласныя комплексы і расейскае тэлебачаньне.

Агульных комплексаў цэлая жменя. Пераважна гэта комплексы непаўнавартасьці — убогая дзяржаўнасьць, неразьвітасьць нацыянальнае культуры, абмежаванае поле мовы, малая колькасьць і занядбаны стан помнікаў, апакаліптычныя карцінкі экалягічнай катастрофы, якія маляваліся яшчэ да Чарнобыля, і гэтак далей. Ёсьць таксама агульныя комплексы завышанай самаацэнкі — самыя прыгожыя жанчыны, самыя лепшыя жаўнеры, самы працаніты народ, самыя чыстыя вуліцы і дысцыплінаваныя пешаходы...

Беларусаў разьядноўваюць высновы, якія яны робяць з уласных комплексаў. Адныя, напрыклад, гатовыя ўзяць кулямет і... выправіць сытуацыю з помнікамі. Другія, грэбліва пацціскаючы вусны, чакаюць, калі, нарэшце, скончацца гэтыя гульні ў тутэйшую «дзяржаўнасьць» і «самабытнасьць». А трэція, збольшага ўсім задаволеныя, чакаюць, пакуль улады падправяць, умацуюць і «здымуць пытаньні». Ёсьць, вядома і чацьвертыя, і пятыя. Ёсьць урэшце і беларусы бяз комплексаў, што вымушаныя лічыцца зь іх наяўнасьцю ў іншых беларусаў. І ўсе робяць высновы. Зрабіўшы высновы, кожны сваю, беларусы разам глядзяць расейскае тэлебачаньне і зь цікавасьцю сочаць за чужым жыцьцём.

Беды й навалы ня лучаць беларусаў з часоў падзелаў Рэчы Паспалітай. Не злучыў іх, насуперак прагнозам, і Чарнобыль. Наадварот, большасьць жыхароў «чыстых» раёнаў, нібы той маладзён у тралейбусе, які раптам ўтаропліваецца ў вакно, абы не саступіць месца кабеце, імкнуцца не зважаць на бяду пацярпелых.

Харызматыкі таксама ніколі не лучылі беларусаў. Чым большая была харызма ў царкоўнага ці палітычнага дзеяча, тым больш палярныя ацэнкі давалі ім людзі. Для адных Апанас Філіповіч — сьвяты, для другіх — здраднік. Адпаведна, амбівалентна ўспрымалі беларусы і Веньяміна Руцкага, і Язафата Кунцэвіча, і Касьцюшку, і Каліноўскага. Той, хто не дае іншым права на ўласную рацыю, урэшце застаецца сам-насам са сваёй харызмаю. Прыклад: два найбольш яркія й найбольш палярныя палітыкі сёньняшняе Беларусі.



Здымак Дзяніса Раманюка

Зь непрыманьня апантанай харызмы вынікае й беларускае непрыманьне апалягетыкі. У сёньняшняй Беларусі нярэдкі прыклад, калі людзі ходзяць адначасова і ў цэрквы, і на малельныя зборы пратэстантаў, як некалі ўніяты хадзілі і ў касьцёл, і ў царкву. Беларусаў не яднае рэлігія, бо яны ня хочуць рабіць незваротнага выбару.

Што ж гэтак аб'ядноўвае беларусаў вакол расейскага (падкрэсьлю — не свайго) тэлебачаньня? Па-першае, яго можна глядзець паўсюль і задарма. Па-другое — там ніхто не патрабуе ад беларусаў саўдзелу, а значыць усё можна сузіраць пасыўна, разважаць без напругі. Пасьля, натуральна, лепшая якасьць перадачаў. Па-чацьвертае, ніхто не вярэдзіць там нашых комплексаў, хоць бы з-за палітычнае карэктнасьці. Па-пятае — апантаная апалягетыка розных харызматыкаў там рассыпаецца, прапануючы цэлую палітру думак. І нарэшце, самае прывабнае для беларуса — там у яго ёсьць права выбару на шасьці каналах. Хочаш чаго-небудзь ячымліва савецкага — бяры, чаго-небудзь гарачэйшага — калі ласка.

Беларусаў яднае расейскае тэлебачаньне

**Сяргей Харэўскі**

# РАЗЬЯДНАНЫЯ МОВАЙ

*Апытаньне на вуліцах Менску*

Неяк ехаў я ў тралейбусе па праспэкце Францішка Скарыны. У салёне людзей было што селядцоў. Проста перад выхадам цясьніліся два сталыя спадары, выгляд якіх тактоўна можна было б акрэсьліць як «пакамечаныя інтэлігенты». Адзін спытаўся ў другога на чыстай беларускай мове, маўляў, ці выходзіць спадар на наступным прыпынку. У адказ адбыўся зацяжны істэрычна-агрэсіўны пэрфоманс — што ён у мяне пытаецца?! Я не разумею! Я пацікавіўся, няўжо спадар не разумее беларускую мову? Салён прыціх. Аж раптам некалькі кабет пачалі прасіць мяне «не чапаць мужыка», намякаючы, што ён крыху не ў сабе. Тралейбус спыніўся, дзьверы расчыніліся, і... Беларускамоўны інтэлігент зьнік з «поля бою» ці не хутчэй за ўсіх. Людзі разыходзіліся моўчкі, схаваўшы вочы. Ані слова падтрымкі, ані абвінавачаньняў у нацыяналізме...

Ці можна назваць гэтую сытуацыю тыпова беларускай? Увогуле, што аб'ядноўвае беларусаў? Дакладней, што іх можа аб'яднаць? Гэтым разам я пытаўся ў менскіх ыінакоў, ці ёсьць ідэя, якая б магла стварыць зь беларусаў адзіную нацыю?

Вось адказ былога адваката, які некалі ўдзельнічаў у нацыянальна-дэмакратычным руху. Гэты чалавек перакананы, што ідэя для аб'ядпаньня ёсьць:

— Можа аб'яднаць ідэя незалежнасьці. Калі ўсе разам аб'яднаюцца і пойдуць біць Лукашэнку, можа, з гэтай нагоды і аб'яднаюцца разам. Нічога станоўчага я пакуль ня бачу. Ну, жаданьне жыць больш годна... Але людзі гатовыя жыць за дзесяць-пятнаццаць даляраў, і пакуль што іх гэта задавальняе...

Цікава, што тыя ж самыя думкі мне выказала неангажаваная ў нацыянальныя колы сталая кабета з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй. Яна казала пра патрэбу агульнага ворага, і прыводзіла ў прыклад паваенную Заходнюю Эўропу.

Яшчэ адна канцэптуальная думка. На гэты раз — пятнаццацігадовага школьніка:

— Любоў да ўсіх людзей, каб усе людзі жылі ў міры...

Тры навучэнцы тэхнікуму шчыра зьдзівіліся майму пытаньню. Яны лічаць, што беларусы ўжо ёсьць адзінай нацыяй. Зрэшты, падумаўшы, адзін зь іх ізноў прамовіў слова «вайна». Маўляў, калі яна пачнецца, тады ўсе зразумеюць, хто ёсьць хто. Другі выказаў меркаваньне, што трэба зьмяніць прэзыдэнта. Але адразу ж абмовіўся: «у нас мазгоў ня хопіць». Трэці ўступіў у спрэчку:

— Калі прэзыдэнта зьменіш, усё адно нацыя не аб'яднаецца.

А вось студэнтка, якая стаяла побач, лічыць, што ў нас ёсьць усе шанцы стаць нацыяй. Бо мы аб'ектыўна адрозьніваемся ад суседніх народаў, прынамсі, мэнталітэтам. Яна лічыць, што

## Курт Тухольскі

# У ФАЕ ГАТЭЛЮ

*Сямёх адным паглядам*



«Неверагодна. Сапраўды — неверагодна. Як толькі вы пра ўсе гэта даведаліся?»

Ён усьміхнуўся занадта ўсьцешана, каб быць усьцешаным насамрэч; якім жа пыхлівым мусіць быць гэты чалавек! — «Як я вам казаў: гэта практыка. Я навучыўся гэтаму на сваіх прыёмных гадзінах — я ня Шэрлак Голмз, вядома, не. Я нэўрапатоляг, такі ж, як і іншыя — толькі я ўмею глядзець. Глядзець і бачыць».

Ён задаволена зацягнуўся тытунёвым дымам.

«А тая дама ззаду? Якая сядзіць за сталом і, здаецца, чакае кагосьці — бачыце, яна ўвесь час паглядае на дзьверы...»

«Тая? Дарагі сябра, вы памыляецеся. Гэтая дама не чакае. Прынамсі, яна не чакае тут нікога. Яна чакае... так, можна сказаць, яна чакае Цуд — вось чаго яна чакае. Дазвольце... адзін момант...»

Ён выцягнуў з кішэні камізэлькі манокль, уціснуў яго ў вачніцу, манокль не сядзеў, і ён паправіў яго.

«Гэта... Дык вось, гэта адна зь нешматлікіх вялікіх какотак, якія яшчэ ёсьць на гэтым бедным сьвеце. Вы ж ведаеце, што какоткі вымiраюць, як само гэта слова. Буржуазная канкурэнцыя... Адылі, што я хацеў сказаць: каралева прадажнага юру. Менш патэтычна: дама вялікага, але ж сапраўды вялікага паўсьвету. Чорт... Чорт пабірай... Вы бачылі гэты рух рукі? Яна пажырае мужчынаў. Яна іх пажырае. Яна... І ў яе вачах — вы толькі прыгледзьцеся да яе вачэй... прыгледзьцеся да яе... у яе вачах комплекс смутку, цэлы сад ніцых вербаў. Гэтая жанчына прагне чагосьці; пасьля стольких зьдзяйсьненьняў жаданьняў, якія не былі жаданымі, яна прагне. Што да гэтага, няма сумневу. Пытаньне ў тым, ці знойдзе яна калі-небудзь тое, чаго шукае. Вельмі цяжка знайсьці тое, чаго яна хоча — вельмі цяжка. Яна мела ўсё, у яе жыцьці было ўсё. А цяпер яна хоча большага. Гэта нялёгка. Якая мінорнасьць пад гэтым вэлюмам! Можа быць, які-небудзь мужчына праз яе скончыў жыцьцё самагубствам — можа быць — гэтага я ўжо не магу сказаць напэўна. Я не ўсяведны, я толькі лекар душы... Я хацеў бы кахацца з гэтай жанчынай. Разумееце ыяне — не кахаць. Кахацца. Небясьпечна кахаць гэтую жанчыну. Вельмі небясьпечна. Так».

«Доктар... Вы — Каліёстра... Вашым пацыентам не да сьмеху».

«Мяне нельга ўвесьці ў зман, — сказаў ён. — Толькі не мяне. Што вы яшчэ хочаце ведаць? Калі мы ўжо распачалі...»

«Вось той! Так, таўстун, які зараз уздымаецца сыходзіць — не, аяртаецца. Той мужчына з трохі чырванаватым тварам. Кім ён можа быць?»

«Ну, а вы як лічыце?»

«Так... гм... але ж сёньня людзі так падобныя адно да аднаго... можа...»

«Падобныя адно да аднаго? Вы проста ня ўмееце глядзець — умець глядзець — гэта ўсё. Гэта ж зусім проста».

«Дык хто ён?»

«Гэты мужчына — гандляр віном. Ён альбо сам шэф, альбо пракурыст буйной вінагандлёвай фірмы. Энэргічны, адукаваны мужчына; валявы мужчына — мужчына, які рэдка сьмяецца і, не зважаючы на віно, ня надта цэніць гумар. Сур'ёзны мужчына. З тых, што жывуць справай. Няўмольны. Ненавідзіць вялікія зборы людзей. Гэта чалавек сур'ёзны. Вось хто ён».

«А гэтая? Гэтая маленькая мадам, трохі банальная на выгляд?»

«Пантэр, як вы можаце казаць такое! Гэта — (манокль) гэта прыстойная, сумленная жонка правінцыйнага буржуа... (манокль вяртаецца ў стойла) . .добрапрыстойная жонка, маці прынамсі чатырох дзяцей, узгадаваная ў паняцьцях гонару, уласьцівых дробнабуржуазным сем'ям — штонядзелі ходзіць да царквы — гатуе для свайго мужа, цыруе сваім гарэзам нагавіцы й сукеначкі — тут усё ў парадку. «Вызнае вернасьць і сумленнасьць і не адхіляецца ані на цалю... яна — не».

«Доктар, а вось той?»

«Глядзіце: вось тыповы чалавек грошай нашага часу. У гэтым уся ягоная сутнасьць. Я нават мог бы распавесьці вам гісторыю ягонага жыцьця — так ясна я бачу душу гэтага чалавека. Хапун. Умее трываць удары. Такі ня дасьць сябе ў крыўду. Ён не губляе часу на розную лухту; не чытае кніг; яму пляваць на ўсё, што не датычыць ягонай справы. Перад вамі замэрыканізаваны эўрапеец. Што да кабет, — крыж нябесны! — ужо шостая... Не крыўдуйце — але маю яшчэ неадкладную сустрэчу. Мушу зараз жа ўзяць таксоўку. — Вазьміце грошы! — Рахунак...» — папраравіўся ён. Кельнэр падышоў, узяў і пайшоў. Доктар узьняўся.

«Колькі я вам вінен?» — жартам спытаўся я.

«Неаплатна, неаплатна. Усяго добрага! Ну... бывайце!»

Ён пайшоў.

І тады мяне апанавала цікаўнасьць, тады яна мяне апанавала. Усе ахвяры аналізу яшчэ сядзелі на сваіх месцах — усе. Я прабраўся да парцье, якому з-за стойкі добра было відаць усю залю. І я загаварыў зь ім. І нешта з маёй рукі прасьлізнула ў ягоную руку. І я пытаўся. І ён адказваў. І я прыслухоўваўся:

Аўстрыйскі прыдворны аказаўся гандляром швейнымі машынкамі з Гляйвіца. Вялікая прасталытка з комплексам суму — пэўнай місіс Бімштайн з Чыкага, а цяпер да стала падышоў таксама і яе муж, безумоўна, пан Бімштайн. Пракурыст вялікай вінагандлёвай фірмы быў клёўнам Грокам. Пухленькая матуля — гаспадыняй гасьціннага дому ў Марсэлі; нахабны фінансіст — пастам найноўшае школы; і толькі псыхоляг быў псыхолягам.

**Пераклаў зь нямецкай Алесь Пяткевіч**

Курт Тухольскі — нямецкі пісьменьнік (Бэрлін, 1890 — Швэцыя, 1935). Крытыкаваў мілітарызм і шавінізм. Пасьля прыходу Гітлера ягоныя кнігі палілі, а самога яго пазбавілі грамадзянства. Вымушаны эміграваць у Швэцыю, ён там неўзабаве скончыў самагубствам. Друкаваўся пад рознымі псэўданімамі. Гэтае апавяданьне выйшла за подпісам Пэтэр Пантэр (1930). Ягоныя кнігі — «Пад пяцьцю псэўданімамі» (1928), «Нямеччына, Нямеччына па-над усім» (1931) ды інш.

# КАХАНЬНЯ

Сам дык я цалкам нармальны — проста ў мяне асаблівы выпадак: я яе шчэ іншай памятаю. Мы зь ёю з школы знаёмыя — яна тады такая забаўная была. Сьціплая, уважлівая, ветлівая такая. Бог яго ведае, ці бачыў я яе раней, але ў дзясятай клясе, у калідоры, кажа мне неяк прыяцель: «Глядзі, якая пухленькая. Вось бы з такой ажаніцца». Я тады яе неяк і прыкмеціў. Ззаду. Думаю: «І праўда, нішто сабе дзяўчынка». Так і пачаў заляцацца. Да таго ж я ў яе трэці мужчына. Так, трэці. Але «тры» — лічба не абы якая. Сыыбалічная. Да таго ж першы мужчына — гэта так, проба пяра, можна сказаць. Клякса. Другі — дзеля разьмінкі, дзеля досьведу. А трэці — гэта ўжо абдуманае рашэньне, тут ужо адчуваецца стыль, індывідуальнасьць, тэхніка. Так што на мне ляжала падвойная адказнасьць за Веранікін лёс, за яе дабрабыт, шчасьце. Я мусіў быць мужчынам, і я быў ім да самага канца, нават пасьля таго, як яна паказала ўсім свой сапраўдны нораў, сваю сутнасьць, сваю паскудную, здрадлівую натуру.

А адбылося ўсё гэта звычайна. Патэлефанавала, сказала, што затрымаецца на пару гадзінаў, а сама не прыйшла. Як не прыйшла ні назаўтра, ні наступнай ноччу, ні на трэці дзень. І калі праз тыдзень яна прывалаклася, каб забраць свае манаткі і «адкараскацца» ад ыяне, я быў ужо ў сваім уяўленьні абшарпаным, сівым і зарослым барадою. Праз страх за яе, а потым праз крыўду й роспач. І я ўжо не баяўся прызнацца сабе, што «так, я паводзіў сябе, як апошні дурань, як тысячы іншых пакінутых мужыкоў». Спачатку мерз на прыпынку, зазіраў, як сабака, у вокны тралейбусаў. Тэлефанаваў у міліцыю, апісваў прыкметы й прыкрываў рукою вочы, калі ўзгадваў тыя рысы, якія, здавалася, былі прызначаныя толькі для мяне. Я шчаміўся ва ўсе куты й шчыліны, каб знайсьці яе пах ці валасы. Я тыкаўся ў сьпінкі фатэляў, канапу, падушкі й ручнікі, твар, цалуючы шорсткую матэрыю, каб затрымаць Вераніку. Я прагульваў працу. Я чакаў званка ці Веранікінага зьяўленьня. Я не прыбіраў у хаце, каб ня сьцерці сьляды яе прысутнасьці. Я хадзіў басанож, каб ступаць па брудзе й пяску, прынесенымі яе нагамі.

І калі яна прыдзяўблася дадому, вы думаеце, яна хаця б крыху ацаніла маю дбайнасьць, думаеце, мае хваляваньні кранулі яе? Не. Я «ўсяга навыдумляў.» Да таго ж я «канешне, добры й спагадлівы, але не ідэал,» і тым больш ня ейны. І калі яна ўжо не знайшла ўва мне свайго аднаго-адзінага мужчыну, то вымушаная мець некалькіх. І зь цягам часу ўсе разам яны як бы складуць архетып таго мужчыны, які ёй патрэбны. Проста, як Адам Кадман, альбо Рухані, у хазараў. Дзіва што. Магу вас запэўніць: былі ў яе потым і Кадымон, і Адам, і вусаты Рухані — усіх хапала. Усякай масьці сабе кавалераў награбла.

І, пэўна, мне варта было выгнаць яе тады, у той студзеньскі вечар, але я хацеў давесьці ёй і найперш, відаць, самому сабе, што я ўсё ж такі найлепшы мужчына, які толькі можа ёй трапіцца. Я ўзяў яе халодныя рукі й сказаў, што мы проста стаміліся. Што мы павінны тое-сёе зьмяніць. Што мы яшчэ ня зьведалі адзін аднаго да самых глыбіняў, не паказалі адзін аднаму, на што мы здольныя. Што яна мусіць мець камфорт, а не бадзяцца па чужых людзях. Што я пайду на яе ўмовы, што буду служкам, рыцарам, плюшавым мішкам, братам — кім заўгодна, абы яна пагадзілася ня рваць усяго таго, што было паміж намі раней. І што я хачу яе, што я невыносна хачу яе, і што я прымушу яе забыцца на ўсе яе часовыя ідэалы.

І сапраўды, ідэалы аказаліся часовымі, але яны саступілі новым, і жыцьцё маё пераўтварылася ў суцэльнае пекла. Па начах, пасьля таго, як я ўжо адкрыта быў прызнаны «толькі адным з», я ляжаў побач зь Веранікай і разважаў пра ўсіх гэных людзей: пра заможнага каўказца-кандыдата навук, пра баяніста, пра француза-студэнціка, пра кіроўцу грузавіка, пра настаўніка роднай ывовы і пра ўсіх астатніх, пра каго яна мне распавядала. Я ляжаў побач з усёй гэтай вар'яцкай калодай картаў і, не паверыце, нават ганарыўся, што на сёньняшнюю ноч змог выбіцца на першае ыесца ў гэтым балагане. І я зноў і зноў пытаўся ў сябе, што адчувала яна ў дачыненьні да кожнага з нас (я ўжо станаўлюся салідарным зь імі — дзіва, што я не надумаў утварыць разам зь імі прафсаюз), ці кахала яна некага з нас напраўдзе. Ці меў для яе хто асаблівае значэньне. І я амаль кожны раз маладушна адказваў сабе, што гэта быў я. І ніякія зьнікненьні, ніякія пагулянкі не змаглі пераканаць мяне ў адваротным.

Але я памыляўся тады не праз дурноту сваю, а праз тое, што ведаў Вераніку настолькі добра, наколькі добра можна ведаць вечна цёмны пакой, у якім заўсёды рухаесься навобмацак. Я ведаў Веранікіна цела, яе звыклыя жэсты, але нават яны мяняліся з кожным новым мужчынам, і я ледзь пасьпяваў высачыць новую рысачку-злодзея. І калі мы запозна вячэралі разам і Вераніка намазвала булку маслам і палівала вішнёвым сочывам, я ўсё гадаў, чаму яе кахаюць усе ыае супернікі. Чаму яны жадаюць менавіта яе, і што ім у ёй так падабаецца. Бо сам я ўжо ня бачыў у ёй нічога, апроч чарады адбіткаў чужых мужчынскіх твараў на ейным. Чужых поглядаў, усьмешак, словаў, мімікі, пластыкі, валасоў. Усе гэныя мужчыны былі надзейна засьпіртаваныя ў Вераніцы, і нават зьяўленьне новага кавалера не пагражала б ім нічым. Яны засталіся б некранутымі, і толькі які-небудзь нязвыклы прыжмур вока дадаў бы пакутаў мне. Мне — чалавеку, які столькі часу быў нязьменным назіральнікам яе перажываньняў, тэлефонам даверу, гарантыяй гарбаты па вечарах, калі ў Веранікі нешта абломвалася альбо, наадварот, яшчэ толькі пачыналася. І тады, у першым выпадку, яна сядзела, зморшчыўшы лоб, і цені ўсіх былых перамог і пройгрышаў лёталі па твары. І мне хацелася пахапаць дакучлівых чорных птушак сумненьня, што азмрочвалі яе твар, кінуць іх у кіпень, зварыць неабсмаленымі й паказаць Вераніцы. Паказаць, што гэта ўсяго толькі мяса й пер'е, а ня нешта, што мусіць так мучыць яе й замінаць ёй жыць шчасьліва.

Але бывалі й такія дні, калі Вераніка вярталася дахаты пад раніцу, гарэзьлівая й задаволеная, і была выключна прыязнай да мяне. Тады яна, зь сьмехам, абдымала мяне й супакойвала: «Нічога, не бядуй. Аднойчы ты таксама знойдзеш сваю жанчыну, якая будзе да пары, і мы станем сябраваць сем'ямі». Вераніка не была злой. Так, эгаістычнай, разбэшчанай, жорсткай, але ня злой. І калі ёй сапраўды шанцавала, і яна сустракала некага вартага, Вераніка рабілася ледзь не анёлам. Але іскры агню, якія літаральна пырскалі зь яе тады,

*Працяг на старонцы 14*

## Марк Шагал

**ЦЯПЕР**

*Усе мае дні*
*я шмат маліцца ня змог.*
*Дзе ён?*
*Як ён, мой Бог?*
*Ты чуеш, бачыш мяне?*
*Я хацеў цябе клікаць,*
*налямантавацца ўсмак,*
*я, проста жабрак.*

*Цяпер я стары,*
*час мяне змог.*
*Ты падымеш мяне да сябе,*
*мой Бог.*

**ПРА ГЭТУЮ ЯСНАСЬЦЬ**

*Бог мой, за гэтую яснасьць,*
*якой ты душу маю насяліў,*
*– Дзякуй.*

*Бог мой, за гэты спакой,*
*якім ты душу маю насяліў,*
*– Дзякуй.*

*Бог мой, ноч настае,*
*да сьвітаньня зводзіць павекі мае,*
*і я намалюю нанова*
*табе, Адзіны,*
*пра зямлю і нябёсы*
*карціны.*

**СЁСТРЫ**

*Сьмяяцца ці плакаць –*
*сёстрам усё адно,*
*ці сьпяваць, пастаўшы ў дзьвярах,*
*ці траскатаць па-сарочы,*
*адчыніўшы вакно,*
*глядзець, хто йдзе,*
*ці шчасьце, ці страх.*

**БРАТ**

*Мне цябе не хапае, Давыд.*
*Чаму*
*ты не затрымаўся ў жыцьці?*
*Быў бы рады, як роднаму,*
*ценю твайму.*
*І ад каменя ценю*
*мне не знайсьці.*

**САД**

*Вечар. Сад,*
*асьветлены поўняй. І ты,*
*легенда. Лагодны дотык*
*мілаты.*

*Ты пацалуеш мяне,*
*абдымеш мяне, ці,*
*магчыма, мне загадаеш*
*адсюль пайсьці.*

*Лагодны дотык прадоньня.*
*Закаханы прыходзіць сёньня,*
*водарам сада напоўнены,*
*малады.*
*Як тады...*

**КАРАБЕЛЬ**

*Усе дзьве тысячы гадоў*
*расьсейвалі мяне,*
*але на ўзрост*
*мая краіна маладая.*
*Юнак – мой сын Давыд.*
*Я кленчу даўніне*
*І зоры на шчыце Давыдавым шукаю.*

*Прарокі паўзь мяне*
*бясшумна праплылі.*
*Давыд сьвітае –*
*чую подых і праменьне.*
*Дзьве тысячы гадоў*
*на небе, на зямлі*
*сьлязьмі цябе чакаў,*
*краіна захапленьня.*

*Як Якаў, спаў глыбока*
*і сасьніў я сон:*
*анёл па лесьвіцы*
*мяне ўздымае ўгору,*
*і душы згаслыя наўкол,*
*зьнябыўшы скон,*
*узносяць сьпеў*
*у нечувалую прастору.*

*Сьпеў пра Ізраіль новы*
*і пра тыя ўсе*
*дзьве тысячы гадоў*
*расьсейваньня бяз жалю.*
*І пра Давыда –*
*сына ў сонечнай расе.*
*Чым Бах і Моцарт,*
*саладзей яны сьпявалі.*

*Зь ідыш пераклаў Рыгор Барадулін*



## Рыгор Барадулін

**МАРК ШАГАЛ**

*Жыцьцё працякала –*
*І не стараўся*
*Залапіць гарбаты дах.*
*Губляў галаву*
*І не сьпяшаўся*
*Яе адшукаць.*
*Ягоны сусед Макар*
*Пасьвіў цялят*
*Недзе ў Маркаўшчыне*
*Ці на Пескавацiку,*
*А ён пераганяў коз*
*З Элісейскіх палёў*
*На Млечны выган.*
*Козы былі зь Віцебску,*
*Дзе дагэтуль*
*На глухаватай вуліцы*
*Чакае яго мураванка*
*І на падваконьні*
*Гараць бальзамінкі*
*Зоркамі малалецтва*
*У цёплым космасе*
*Незабытай бацькаўшчыны.*

# ПЯСЬНЯР ПАТАЛЯГІЧНАГА КАХАНЬНЯ

*Працяг з старонкі 13*

дратамі праціналі мяне. І я трываў, трываў, трываў бясконца, бо разумеў, што быць Веранікай — цяжар нашмат большы за мой боль. І я рабіўся саўдзельнікам Веранікінай безразважнасьці, таму што, хоць і не патураў, але ж суперажываў. Тым больш, што заўважыў нейкую незразумелую заканамернасьць: калі Вераніка йшла за сваёй зусім не дабрадзейнай натурай, усё ладзілася і ў яе, і ў мяне. Але як толькі Вераніцы сьніліся яе дзіцячыя сны альбо прыходзілі ў галаву думкі пра нейкі «няспраўджаны доўг перад грамадзтвам» (Бог яе ведае, што яна мела на ўвазе), яна ледзь не хварэла, бо спрабавала быць «прыстойнай». Вераніка даводзіла, што яе існаваньне — заганная паталёгія. І, не паверыце, я сам пераконваў Вераніку, што паводле апошніх тэорыяў паліткарэктнасьці паталёгія ня можа лічыцца заганнай. О так, тут ужо маёй беднай Веранічцы не было як сумаваць, і яна палымяна прамаўляла, што «так, яна мусіла аддаваць сябе, дзяліцца сваёй жыцьцёвай моцай, бо інакш тая душыць і разьдзірае яе знутры.»

Мана. Нічога яна ня мусіла нікому аддаваць. Насамрэч, яна ўжо не магла спыніцца, затрымацца зь нейкім пэўным мужчынам. Бо баялася. Баялася перайсьці тую мяжу, за якой бы ёй прыйшлося ўбачыць ужо не сябе и сваю страсьць, а мужчыну, на якога яна цэбры той страсьці вылівала. Не кажу ўжо пра каханьне. Тым больш узаемнае. Яно б Вераніку проста забіла.

У тым і парадокс: нягледзячы на ўсе яе прыгоды, каханьне — і мужчыны ўвогуле — было для Веранікі самым небясьпечным, страшэннай пагрозай. Бо яны, калі сканцэнтравацца на іх у той ступені, у якой яны таго заслугоўваюць, адрывалі б Вераніку ад яе самой. Яны зруйнавалі б яе асобу, зламалі б унутраны стрыжань, зьнішчавалі б яе духоўны досьвед. А хіба дзеля гэтага яе Бог стварыў? Зусім не, — лічыла яна. І ніхто, кажу вам, ніхто з тых дурняў зь якімі яна круціла, нічога для яе не азначаў. Вераніка прыслухоўвалася толькі да сваіх пачуцьцяў, толькі да сваіх тактыльных адчуваньняў. І калі я нарэшце наважыўся спытацца ў яе, ці аддавала яна перавагу каму з тых, з кім была разам, Вераніка з усёй сваёй непадробнай шчырасьцю адказала, што «так, два-тры зь іх былі больш тэхнічныя ў гэтым пляне, чым астатнія». Так што відавочна, яна была засяроджаная цалкам на сабе. Яна толькі кацела папеставаць сваю натуру, сябе, такую каштоўную й прыгожую. І калі гэныя добраахвотнікі стараліся на Вераніцы, яны нават не здагадваліся, што проста сьціралі зь яе парцалянавага цела пыл, які назьбіраўся за тыдзень-другі сталай сувязі альбо самоты. Так што, я мяркую, Вераніка рабіла ўсё гэта ў мэтах асабістай гігіены. І ня больш.

А я... Я быў даўно заваяваны крэпасьцю, перамога над якой нікчэмным мэдалём боўталася ў Веранікі на грудзях. Яна кожны раз сыходзіла на мяне, як прасьвяда, але затым уставала й рухалася далей. Варочалася, а потым ізноў зьнікала. А мне заставалася ненавідзець, ірваць фатакарткі й чакаць, чакаць, чакаць... Ажно пакуль Вераніка не прыцягвалася «мірыцца». З валізкай, нашпігаванай рознымі прысмакамі, і пляшачкай белай. Вось такое «каяньне».

Але ўсё ж такі я спрабаваў пазбавіцца той хваравітасьці, якая панавала ў нашых адносінах. Я намагаўся. Я вырашыў, што калі Вераніка ўсё адно заўсёды вяртаецца да мяне, то я мог бы пагрэбаваць прынятымі ўмоўнасьцямі й ажаніцца зь ёю. хоць яна й такая. Хоць увесь наш двор, мае калегі й сябры кпяць зь мяне. (Няхай. Яны проста зайздросьнікі.) А каб Вераніка ведала, што ў яе ёсьць законны муж, яна, можа, часьцей зазірала б да мяне. Але я памыліўся.

І калі я ўжо дакаціўся да гэткіх разважаньняў, сказала мне яна, то мы ўжо ня змоўцы, паміж намі ўжо ня можа быць раўнапраўнай «сацыяльнай угоды». Значыцца, справа — дрэнь, і ёй вельмі шкада, што яна не спынілася раней, бо яна ўжо падазравала мяне ў занадта сэнтымэнтальным стаўленьні да нашага сумеснага пражываньня. Сама ж яна ўважала яго за добрае сяброўства, асабліва пасьля ўсіх яе раманаў. Да таго ж я, відаць, моцна пакутаваў увесь гэты час, а я ня варты такой зьнявагі. І больш яна ня будзе так абыходзіцца з мной. Мы проста палюбоўна расстанемся, пакуль гэта яшчэ безбалесна. І вы думаеце, ёй нешта зашкодзіла менавіта так і зрабіць?..

...Звычайна мужчыны, якіх кінулі, робяцца падобнымі да тых жанчынаў, якія гэта ўчынілі. (І наадварот.) Каб утыркнуць сваю нечуваную крыўду ў некага іншага. Каб адпомсьціць за сябе супрацьлегламу полу. Альбо ў якасьці псыхатэрапіі. Бывае, што пасьля найбольш удалых «сэансаў», на сьвет зьяўляюцца непераўзыйдзеныя сьцервы й донжуаны. Але са мной нічога такога не адбылося.

Усе тыя гады, што Вераніка пазьбягае мяне, яна, насамрэч, бадзяжнай коткай блукае паміж мной і іншымі мужчынамі. І таму я застаюся сам па сабе. Але адзінота зусім не пужае мяне. Ды й як можа палохаць тое, да чаго ты ўжо прызвычаіўся? І даўна ўжо ніштo не парушае гэтай самоты. Маё «я» больш не пускае ў сябе нічога звонку. Яно ня хоча далучацца да тых, хто тэлефануе альбо прыходзіць. Маё «я» аддало швартовы й выправілася ў адзіночнае плаваньне. Безь цябе.

А вось зараз ты ходзіш перад маімі вокнамі, а я не магу па начах спаць, бо й коўдра, і прасьціна

# Адам Глёбус
# КІШЭННАЯ ГІСТОРЫЯ КУЛЬТУРЫ-3

**Крамэр**

Аўстрыйскі габрэй Тэадор Крамэр усё жыцьцё пісаў вершы пра тых, хто ня піша й не чытае паэзіі. Ён працаваў на мове народу, які вынішчаў ягоную нацыю. Хто яшчэ так рабіў? Хто здатны напісаць пра фашыста радок: "Мой бедны брат, я плачу па табе"? Хто мог папрасіць у Бога адно "кулёчак бульбы з рыбай"? Толькі ён — Тэадор Крамэр.

**Рэмбрант**

Жывапісец Рэмбрант ван Рэйн нарадзіўся ў сям'і млынара, але ягоныя палотны асьветленыя агністым сьвятлом зь печы пекара. На Рэмбрантавых палотнах зіхацяць албіткі полымя, на якім пячэцца хлеб.

**Эйзэнштэйн**

Буйны плян у кіно прыдумаў Сяргей Эйзэнштэйн. Бязь ценю сумневу яго можна назваць бацькам парнаграфічнага відэа, якое будуецца выключна з буйных плянаў.

**Джагер**

На канцэрце "Ролінг Стоўнз" жонка спыталася: "Ты цяпер разумееш, што ты й Мік Джагер — блізкія людзі?" "Вядома, блізкія... Мы знаходзімся на адным стадыёне, а сорак тысячаў барсэлёнцаў ня ў лік".

**Шардэн**

Калі мелькам зірнуць на палатно з нацюрмортам Жана-Батыста Сымона Шардэна, можна ўбачыць замест яго твор Сэзана. А калі доўгадоўга засяроджана глядзець на шэдэўр Поля Сэзана, дык праз яго праступіць Шардэн.

**Курасава**

Кінарэжысэр Акіра Курасава зьняў фільм "Ёджымбо" ("Целаахоўнік") пра чалавека, які невядома адкуль узяўся й немаведама куды сышоў. Еджымбо біўся, змагаўся, падманваў, перамагаў, кахаў, але самым істотным для мяне засталося тое, што Целаахоўнік немаведама адкуль прыйшоў і невядома куды зьнік



**Сэзан**

Нацюрморты Поля Сэзана вызначаюцца сьвежасьцю. Уяўляю іх у вялікіх парыскіх сталоўках, дзе адбываюцца сямейныя абеды.

XX стагодзьдзе на чале зь Лё Карбюзье сумясьціла сталоўку з кухняй. Там можна павесіць толькі рэпрадукцыю з Сэзанавымі яблыкамі. Палотны ж Сэзана зрабіліся настолькі дарагія, што ніводная сям'я не рызыкне вешаць іх над абедзенным сталом. І можаш уявіць, як сумуюць Сэзанавы рэчы па звоне келіхаў, відэльцаў і нажоў.

Каяі я глядзеў на персікі Поля Сэзана ў Эрмітажы, мне падалося, што яны сьпяць.

**Джагер**

Рок-н-рол — музыка для людзей з слабым слыхам, як кіно — тэатральнае фота для чалавека, што кепска бачыць. А такіх асобаў, на якіх трэба павышаць голас і дзеля якіх мусіш павялічваць карцінкі, значна болей, чым аматараў музычнай адукацыі й знаўцаў мастацтва. Падобнае назіраныне ёсьць у Гебэльса, які на палях тэксту прамовы пазначыў: "Аргумэнт слабы. Павысіць голас".

Мік Джагер ужо трыццаць гадоў выкарыстоўвае гэтую прапорцыю паміж невукамі й адукаванымі. Ён цудоўна разуыее, што Моцарт можа гучаць зусім ціха й заставацца Моцартам, а "Ролінг Стоўнз" — настолькі вялікі гурт, наколькі ён грамчэйшы, шчыльнейшы й дынамічнейшы за астатнія.

**Дэга**

Эдгар Дэга любіў прастытутак, любіў і маляваў. Ён маляваў і балерын, такіх падобных да прастытутак.

**Манэ й Монэ**

Імпрэсіяністу Эдуарду Манэ дзеля натхненьня прыродаю патрэбныя былі сябры, выпіўка, закуска й жанчыны лёгкіх паводзінаў — усё гэта ў вялікай колькасьці ёсьць на ягоных палотнах.

Імпрэсіяністу Клёду Монэ дастаткова было сонечнага надвор'я, каб пачаць жывапісаць краявід.

**Віян**

Узоры інтэлектуальнага кітчу, створаныя францускім авангардыстам Барысам Віянам пад псэўданімам Вэрнан Саліван, мяне, як і мільёны іншых, захапляюць. Адзін толькі пералік назоваў ягоных бульварных раманаў гучыць як верш...

*Я прыйду наплюваць на вашыя магілы.*
*Ва ўсіх мерцьвякоў аднолькавая скура.*
*Вынішчым усіх вырадкаў.*
*Жанчынам не зразумець.*
*Сабакі, жарсьць і сьмерць.*

І разам з тым, бяз гвалту й прымусу перачытаць другі раз нават гэткія шэдэўры бульварнага чытва немагчыма. Раман рэч аднаразовая, прачытаў, як праглынуў.

**Джакамэці**

У вялікага швэйцарца Альбэрта Джакамэці ёсьць скульптуры, што нагадваюць пруткі спаленых бэнгальскіх агнёў. Толькі апошняя іскра ўсё яшчэ блукае ў танканогіх постацях, створаных майстрам Джакамэці.

бы абліззваюць мяне шурпатымі языкамі. Маё люстэрка нахабна выдае мне па раніцах твой твар. Мае рукі й сны ня слухаюцца мяне. Я больш ня п'ю гарбаты — ва ўсякім разе а сёмай. І не таму, што я хаджу на шпацыр да найбліжэйшай кавярні — я проста баюся цябе. Я баюся тваёй здані, што перасьледуе мяне паўсюдна ў маёй кватэры. У тралейбусе, дзе столькі жанчынаў рантам пачалі размаўляць тваім голасам. У маёй адзежы й бялізне, якія я кранаю тваёй рукой. У маёй брытве. У маім гадзіньніку, які сьмяецца альбо крывіць вусны, як ты. У маім страху, які няўхільна цягне мяне а сёмай да вакна.

Чаму? Нашто ты прыйшла? Чаму ты вынырнула акурат тады, калі я ледзь-ледзь навучыўся жыць безь цябе? Нашто ты клічаш мяне? І чаму ня зойдзеш сама? Няўжо ня верыш, што я табе прабачу? А можа, ты саромеесься некалькіх новых гадоў у тваім узросьце? Але ж і я не маладзён. Мне ўжо таксама пад трыццаць. І я не скажэнец, каб скакаць па малалетках. Мы з табой роўныя. Мы пара. У нас ёсьць агульнае мінулае, агульны досьвед, і я яшчэ поўны сіл. Я магу даць табе тое, чаго ты ад мяне чакаеш. Дык чаму ж ты ня зойдзеш? Чаму ты асьцерагаесься мяне?

Цяпер я назіраю за табою па вечарах і раздумляю аб тым, якое гэта дзікунства, што мы з табой ня можам зрабіць хоць крок насустрач. Што ты ня хочаш патэлефанаваць і папляткарыць пра былых сяброў. Альбо сказаць, што табе прапанавалі выгадную працу, а ты ўжо й так добра ўладкаваная, і таму ўзгадала пра мяне. Ці проста схлусіць, што забыла ў мяне якуюсь рэч альбо лёсавызначальную паперу, калі пераязджала. І тады табе ня трэба было б дзень пры дні сядаць у тралейбус, а потым затойвацца недзе ў нашым альбо суседнім двары, каб нарэшце раздражніць мяне настолькі, што я ня вытрываю й выйду шукаць цябе. Вераніка, я разумею, зараз вясна, і табе бракуе новых уражаньняў. І строі, якія ты зараз носіш, таксама шыкоўна на табе выглядаюць — і табе карціць пафарсіць. Але ж мы цывілізаваныя людзі. Мы маглі б усё вырашыць іншым чынам. Хіба не? Я ўжо амаль гатовы пазбавіць цябе непрыемнай працэдуры прабачэньня й неабходнасьці дзейнічаць першай. Ты маеш рацыю: я ж мужчына — я павінен прымаць удар на сябе. Я дапамагу табе, Вераніка. Сонейка маё, я дапамагу табе...

...Два дні я пальтаў па «Дынама» й крамах, каб адпаведна апрануцца й запэўніць цябе ў сваёй добранадзейнасьці. Два дні я пільна ўзіраўся ў цябе, каб прызвычаіцца да тваёй прыгажосьці й не атрымаць шоку пры непасрэдным кантакце. Я рыхтаваўся. Я сьвяткаваў. Я засьцяліў чыстую бялізну. Я купіў саладкаватага віна. Я вывесіў у лазьнічцы новыя ручнікі. Я ўставіў у кубачак пад люстэркам дзьве новыя зубныя шчоткі. Шалёнік — я нават вытрас пыласос. Я чакаў.

...Безь пятнаццаці сем я падсеў з гадзіньнікам у руцэ да вакна. Потым я падумаў, што гадзіньнік усё ж такі лепш начапіць, бо потым лішнія рухі толькі перашкодзяць. Я прыціснуў далоні да стала — левую наперадзе, каб бачыць час. Я вырашыў падпільнаваць, як ты выйдзеш з тралейбуса, выбегчы (бразнуць дзьвярыма /ключы ў кішэні джынсаў / потым уніз і направа), высачыць, дзе ты хаваесься альбо напаць цябе яшчэ раней. Узяць цябе за плячо, сьлізгануць рукою на шыю, абняць ззаду... І ўсё сказаць. Што падкажа сэрца. Выдумаць, зманіць, заінтрыгаваць, зацікавіць, запрасіць. Быць з табой побач. Цалаваць твае валасы. Быць.

Было ўжо шаснаццаць на восьмую, калі яна нарэшце выйшла з тралейбуса. Я кінуўся з кватэры. Нават адпіхнуў стол і перавярнуў зэдлік (непарадак: яна падумае, што я п'яніца і ў мяне тут быў дэбош). Ламануўся да аркі, але рэзка спыніўся, бо падумаў, што ты магла яшчэ затрымацца. Падкраўся да рогу нашага дому і ўбачыў, што цябе ўжо няма на дарожцы. Пабег да дзіцячага садка ў двары. І... Гэта ты. Гэта была ты. Мал Вераніка. Толькі мая. Мая адзінал жанчына. Мая дзяўчынка.

Ты стаяла ля агароджы зь нейкім падшыванцам. Зь нейкім хлопчыкам у акулярах і штроксавай кашулі. Ты трымала яго за руку, а ён адкінаў табе валасы з твару. Вялікім пальцам гэны шчанюк праводзіў па тваёй шчацэ, а ты сьмяялася й цалавала яго. Так, як мусіла цалаваць толькі мяне. Ты — нейкага падлетка. Вераніка!

І тады назад. Праз садок. Да аркі. Два пад'езды. Ручку ад дзьвярэй — зь мясам. Прыступкі. Ключы. Шыат ключоў, і зьвіняць. Адамкнуў. На стол. Да вакна. І кулаком у шкло. Да крыві. Каб ведаў. Як кахаць Вераніку. Такую сьцерву. Здрадніцу. Шлюху. Агідную балёнку.

...А праз дзень я паехаў на лецішча. Выходныя. Прытэпаў з электрычкі да хаткі. Закінуў заплечнік на вэранду. Не пераапранаўся. Узяў асадку й папоўз на грады папраўляць надпісы на трэсачках. Дзе што пасаджана. Для яе. Усе гэтыя гады дарма. Для яе. Потым дастаў бутэльку гарэлкі, вынес кубак. Паставіў на лаве ля ганку. Хлеба адкроіў, сала, адчыніў слоік з агуркамі. Піў паўдня. Абжыргаў лаву. Затым узяў і намаляваў асадкай на дошцы жаночы абрыс. Выцягнуў з-пад хлеба газэту. Напісаў на чыстым баку: «Вераніка — сука й нікчэмная балёнка». Потым знайшоў цьвічок, малаток, прыстроіў паперку на лобе ў жанчыны, прыладзіў цьвічок і моцна-моцна ўдарыў.

Каб ужо напэўна забіць.

